Кароткія філасофскія імпрэсіі Рагнеда Малахоўскага, створаныя "ў дзённай мітусні", з'яўляюцца інтымнымі, асабістымі думкамі і перажываннямі маладога паэта. Нягледзячы на нетрадыцыйны стыль пісьма, кожны твор лёгка чытаецца, выразна зразумелы і пабуджае да роздуму. Ва ўяўленні чытача абавязкова з'явіцца тое адметнае, што натхніла аўтара. Усе імпрэсіі, змешчаныя ў гэтым зборніку, у свой час друкаваліся на старонках часопісаў "Полымя" і "Маладосць", а таксама ў штотыднёвіку "Літаратура і Мастацтва".

* * *

купальскім вечарам
прамяні папараць-кветкі
асвятлілі
дзявочую постаць
што бясконца ідзе
да мяне

* * *

заплача трава
увосень
убачу празрысты сусвет
на ўлонні
пастарэлага бяссмерця

* * *

крывавае палатно
сціснутых нябёсаў
між усходам і захадам
галінка
малюе свабоду
фарбамі сонца

* * *

няспраўджанай надзеяй
ты стаіш
на скрыжаванні
восеньскіх дарог
я стаў лістком кляновым
з-пад каўнера
нашэптваю
нязмушаныя крокі

* * *

не страшна
уявіць сябе дажджынкай
на далоні Перуна
не страшна
з эскортам сонечных прамянёў
імчаць
насустрач навальніцы

* * *

нябёсы храма
нагадаюць
устаць з каленяў
абудзіць душу
вольным узмахам крылаў
Боскае птушкі

* * *

кропелькі
на запацелым шкле
нерастрачаныя пацалункі
патрабуе працягу
наша неспакойнае дыханне

* * *

мыецца раніца
зазірнуць бы
за вадаспад
дрыготкі далягляд

* * *

на дне ракі
незлічоныя скарбы
чакаюць сваіх шукальнікаў
прыйшоў на бераг рыбак
вуду закінуў

* * *

акварэллю ў школе
намаляваў човен лёсу
і паплыў
рассякаючы

сінія хвалі часу
драбнее востраў маленства
у акіяне жыцця

* * *

дыханне Бога
у неабдымнай кроне
паэзія летняга надвячорка

* * *

кожным уздыхам
кожнай хвалькай
кожным імгненнем
трымаецца за жыццё
чысты ручай
пасярод балаціны

* * *

закінуты пірс
астылага пляжу
пад нашымі крокамі
прагіналіся тонкія дошкі
старэюць сведкі
першага кахання

* * *

злева і справа
бетонныя сцены
спытаю ў ахоўніка
гэтага неба
аб чым марыць
хмара
за калючым дротам

* * *

у праменні
вечаровага сонца
сустрэну твой позірк
радасна загойдаецца
пачуццяў люстраванне
у рачной плыні

* * *

аднастайныя сны
бязмоўныя сустрэчы
прадказальнае заўтра
чарговы раз
адхіну фіранку
з надзеяй
адчуць штосьці новае

* * *

накармлю камін
сухімі дроўцамі
успыхне натхненне
пашкадую вершаў
для каміна

* * *

душа кнігі
пакінутай на марозе
блукае ў пошуку
цяпла бібліятэкі
пад шкарлупінай лёду

* * *

сонца, дождж, снег
сустрэча, каханне, расстанне
нараджэнне, жыццё, небыццё
трэскаюцца і адслойваюцца
на карціне вечнасці
фарбы часу

* * *

скупыя ўспаміны
ахоўваюць мінулае

змянюся
да непазнавальнасці
вытру пыл
са свайго фотаздымка

* * *

паехала
сціхаў шум электрычкі
я адзін
чатыры рэйкі
і тысячы шпалаў
ад мяне да цябе

* * *

будзе цёплай зіма
ля дрывотні
вострыя трэскі
пільнуюць
сякеру ў калодзе

* * *

каменьчыкам на пяску
выводжу родныя літары
закрычаць чайкі
усміхнецца вецер
калі набяжыць
на нашы імёны

нарачанская хваля

* * *

у дзённай мітусні
спазніўся на спатканне
са мной
на лавачцы
адпачывае ліст

* * *

стомлены дзень
выцірае
узмакрэлы лоб
горад
сустракае вечар
самотнымі стрэламі
пад'ёмных кранаў

* * *

казачны човен плыве
у вячэрні чарот
асцярожныя вёслы
кладуцца
на ціхае люстра вады
не патрывожыць бы
песні дзяўчат-беражніц

* * *

пацалункі юнацтва
зялёнае лісце
пад сонцам і ветрам
прызнанне згадаў
у горадзе летнім
на беразе жвавай ракі

* * *

на магільным крыжы
хтосьці павесіў
пятлю
у цемру начную
кажан праз яе праляцеў
устрывожылася
мёртвая пятля

* * *

душа дзіцяці
зіхаціць
у маладых вачах
кахання разуменне
пачалося з мамы
у татавых абдымках

* * *

забыўся
пад каторым дрэвам
схаваў дзіцячы скарб
калі ўжо
праз магутныя карані
набрыняе
сокамі мудрасці
маё дрэва

* * *

спакушальная квецень
засне ў чаканні
салодкага плоду
блуканні
мяне прывялі
да жадання прачнуцца
у яблыні цені
здрада мая заірдзее

* * *

сонечны зайчык
апякае ранішнімі
здрадніцкімі пацалункамі
тлее асалода
на пажарышчы
нашае жарсці

* * *

увільваю дарэмна
ад апошніх прамянёў
восеньскага сонца
пад мостам і маім
бессаромным наглядам
віляе халодная Вілія

* * *

пытанні памнажаюцца
шукаюць свае адказы
людзі старэюць
пакуль існуюць
адказы на пытанні

* * *

зімовым ранкам
запаліўшы асвятленне
кіроўца
удыхнуў жыццё
у змерзлы тралейбус

* * *

адпрэчыць рэчаіснасць
уцякаць ад сябе

праз восеньскае кустоўе
голае цела
калючая сутнасць

* * *

у каменнай няволі
бязважкая мара
бездапаможная
сочыць за стагоддзямі
аднавокая сцяна

* * *

з балкона будынку
старога квартала
імкнецца да Бога
і душ гараджанаў
малітва анёла
за ўвесь мегаполіс

* * *

азарт гульні
зачараваў
пры выйгрышы
стаўкі падвойваюцца
пастаўлю на кон
маладосць

* * *

сотні год
настойлівая хваля
каціла на бераг
з прадоння спакою
валун
цяжар адзіноты

* * *

піва разлітага пах
у вагоне метро
ля чаравікаў
віецца тонкі ручаёк
міжволі наварожыць
спатыкнуцца
на прыступках

* * *

памятаеш, тата
матуля маладая
на беразе чакае
пад намі
неспакойнага Нарочча глыбіня
да тваіх дужых плечаў
я прыціскаюся
маленькім чалавечкам

* * *

звыкаюся з думкамі
адвыкаю ад часу
прывыкаю да людзей
цяжка ўпусціць у душу
узаемаразуменне
цяжка адпусціць
надуманае каханне
назаўсёды

* * *

найлепшы ласунак
вясновы туман
затаіўся ў лагчыне
са смакам згрызае
скарынку
зляжалага снегу

* * *

кветак мядовых пылок
на спінцы пухнатай
ласага чмеля
сваё лета

* * *

цябе раўную
да сяброў
да выпадковых
да сябе
навучы, каханая
змагацца з самалюбствам

* * *

размова доўжыцца
пакуль
на дрэве праўды
вараннё
шматкроп’ем не паўстане
уваччу

* * *

смелае дрэва
пакінула лес
тварам да ветру
захвалявалася
жытняе поле

* * *

усё міне
і застанецца толькі
смагу наталіць
кіпучай лаваю

з грудзей вулкана
нашага жыцця

* * *

золата рук паэтэсы
што грае накцюрн
на клавішах “Беларусі”
ціхія слёзы ўваччу
гледача-музыканта

* * *

наш свет
капрызны, непакорлівы, нясцерпны
бліжэй да Сонца
далей ад Бога
згубяцца вяршыні хмарачосаў
у міжгалактычнай цішыні

* * *

планета губляе
магнітнае поле
і мы з вышыні
назіраем за хмарай
якая трымае
бяздоннае мора дажджу

* * *

атамная энергія
ядзерная палітыка
балюча
краваточаць раны
на сэрцы чалавецтва

* * *

попел пякучы
кладзецца на твар
надзея сагрэцца
раздзімае
амаль безнадзейнае
цяпельца

* * *

выгнаннік
дзьмухаўцовага раю
знайшоў спачын свой
схіліўшы голаў
на тваё калена

* * *

іржавее зашчапка
на венцах у двор

ля дзедавай хаты
штосьці большае
прадалося
з гэтай
адзірванелай зямлёй

* * *

мой цень
авалодвае
водбліскам сонца
што шлях асвятляе
халодным сузор’ям
у тонях
тваіх раўнадушных вачэй

* * *

на пару з сонцам
увайшоў у возера
мудры матылёк
гіпнатычна зазірнуў
у маю засмужаную душу
і паспяшаўся да сонца

* * *

вясновая паводка
кацяня
лашчыцца да ног

сталіцы шэрай
вярбіны
намурлыкалі вясну

* * *

пасля грознай
шматгалосай навальніцы
запраменіцца
нястрымнае жаданне
наблізіцца да вясёлкі
што сілкуецца сокам
магутнага дрэва

* * *

голыя дрэвы-блізняты
галінамі тонкімі
з ветрам гуляюць
пад пільным наглядам
восені-маці

* * *

над дзіцячай пляцоўкай
прытулку
павісла суровая хмара
дзесьці сонца
чакае дзяцей
каб вярнуць

канфіскаванае дзяцінства

* * *

сузор'і сузіраюць
аблокі абдымаюць
дажджы
наважваюцца жыць
здзіўляецца зямля
калі ж нябёсы
перастануць
нас абараняць

* * *

зразаю грыб
уздрыгвае грыбніца
агоніяй
знянацкага знішчэння
на лязе сцізорыка
тлее грыбная надзея

* * *

люстэрка
памнажае пыл
пакуль сурвэтка
жэстам дасканалым
не пакіне
сіметрыю

выключнай чысціні

* * *

самалёты
нябёсныя вектары
выпадковыя
ці запланаваныя накірункі
чэрцяць
на блакітным аркушы
раўнастаронні трохкутнік

* * *

водар жывіцы
паклікаў у лазню
на каменні распаленым
кроплі шквірчаць
і знікаюць
у рэйнкарнацыі
туліцца грэшнае цела
да пары

* * *

на аўтастрадзе
з хуткасцю няўлоўнай
у імгненне
паміж ударамі сэрца
размінуся

з уласным лёсам

* * *

на досвітку
у сонным парку
застывае
хаатычны рух
аслеплых мятлікаў
вакол пагаслых
штучных сонцаў

* * *

даўно няма ўжо
вуліцы Савецкай
з надзеяй і трывогай
у двары бязлюдным
настальгіруе
ссівелы вецер-камуніст

* * *

пажар уварваўся
у хату
закінутай вёскі
бясстрашна і бездапаможна
глухімі стрэламі
выганяе няпрошанага госця
стары шыфер

* * *

у сне леапарда
яна даганяе спажыву
на раўніне гарачага стэпу
і кідае крывавы кавалак
да лапаў яму

* * *

бясконцае каханне
ветру і травы
спакусіла
цікаўную павуцінку
зведаць таямніцы
новых даляглядаў

* * *

тонкая стужка сцяжыны
паміж табой і мной
светлым успамінам
зелянее
алея кахання

* * *

мой лёс
на палатне
твайго парэпанага шляху
няўмольна пакінуў
суцэльныя і штрыхавыя
лініі кахання

* * *

святая праца
ценем спаўзе ў вечар
жанчына
заспявае калыханку
шчодраму ўраджаю

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2016
© PDF: Камунікат.org, 2016